Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 7 кастрычніка 1933.

# РОДНЫ КРАЙ

№ 20.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## Дзіўныя „тэзы".

Калі ў лоне партыі ББ тварылася „польска-беларуская група паслоў", „Беларускі Звон" слушна адзначыў, што назоў гэтае групы не адпавядае фактычнаму складу яе: бо-ж тыя паслы, якія ўвайшлі ў склад групы, як беларусы, з беларускім народам ідэйна ня зьвязаны і праходзілі ў Сойм, як палякі. І названая часопісь слушна нічога добрага для беларусаў ад стварэньня гэтае групы ня суліла.

Прадбачаньні „Белар. Звону" хутка зьдзейсьніліся. Вынікі „рэпрэзэнтаваньня" беларусаў людзьмі, якія ніколі сябе беларусамі не пачувалі і раптам сябе за гэткіх абвясьцілі, выяўляюцца ўжо на дзеле.

У прэсе зьявілася вестка, што „польска-беларуская" група ББ выпрацавала свае „тэзы" ў справе адносінаў да беларусаў. Група мае імкнуцца да пазнаньня беларускае культуры і сужыцьця ды супрацоўніцтва палякоў і беларусаў у грамадзкіх, самаўрадавых і гаспадарчых арганізацыях—дзеля падняцьця культурнага роўня і матэрыяльнага дабрабыту народу. Імкненьні вельмі пахвальныя—асабліва-ж імкненьне да „дакладнага пазнаньня беларускае культуры", аб якой ані палякі тыпу пасла Пазьняка (з Галічыны), ані „беларусы" з ББ „дакладнага пазнаньня" дагэтуль ня мелі ды й ня маюць. І калі б гэтым абмежыліся „тэзы" групы, нельга было-б ім нешта закінуць.

Але „тэзы", якія самі сьцьвярджаюць, што паны паслы з „польска-беларускае" групы ББ з беларускай культурай зусім незнаёмыя, маюць пункт, які паказвае, што, яшчэ не пазнаёміўшыся з гэтай культурай, паны паслы бяруцца наперад сваім адумам вырашаць асноўныя пытаньні беларускага культурнага жыцьця. „Польска-беларуская" група гаворыць аб „пашырэньні надзору" над нашым сярэднім школьніцтвам і аб „стварэньні і пашырэньні беларускае прэсы і выдавецтва, друкаваных лацінікай". Так прынамся, паводле газэтных вестак, выглядае пункт аб „падняцьці духовае культуры і асьветы сярод беларусаў".

Адвага, з якой паны паслы бяруцца ня толькі судзіць, але й дэцыдаваць аб тым, аб чым ня маюць „дакладнага пазнаньня",— запраўды-ж задзіўляючая. Дый імкненьне да „пашырэньня надзору" над беларускімі гімназіямі, якія ўжо другі год існуюць, як урадовыя, выклікае папросту недаўменьне: няўжо-ж паны паслы з ББ так недавяраюць дзяржаўным школьным уладам, што надзор, які выпаўняе кураторыюм, лічаць недастатачным? Калі так, дык можам супакоіць паноў паслоў: надзор над беларускімі гімназіямі маюць і „z urzędu" такжа ўлады бясьпечнасьці... Няўжо-ж і да апошніх няма ў групе даверу?

Што-ж датычыць накіданьня беларусам лацінікі, дык проці гэтага мусім рашуча запратэставаць. Гэта думка і крыўдная ды шкодная для беларусаў, з якімі „польска-беларуская" група мяніцца тварыць згоднае сужыцьцё, і — папросту нерэальная. Мы памятаем, як некалі расейскія ўлады пробавалі акурат таксама накінуць палякам ды літвінам расейскае пісьмо і друкаваць польскія ды літоўскія кніжкі „гражданкай". І што ж з гэтага выйшла? Ды роўным лікам нічога: кніжкі гэныя перахоўваюцца цяпер толькі ў музэях, як прыклад „недакладнага пазнаньня" справы расейскімі ўладамі, а палякі й літвіны, як пісалі, так і пішуць лацінікай.

Адносна да справы лацінікі можам сказаць, што проці накіданьня яе беларусам згодна выступае ўсё беларускае грамадзянства бяз ніякіх выняткаў. Калі яшчэ гадоў 6—7 таму назад хадэцыя ў асобе кс. Станкевіча і разьбівала адзіны беларускі фронт у гэтым пытаньні перад польскімі ўладамі, дык цяпер і гэтая група сама ўжывае гражданкі. І „компэтэнтная" пастанова некомпэтэнтных у беларускіх справах паноў паслоў з ББ робіць такое ўражаньне, як быццам аўтары ясьвядома імкнуцца да недапушчэньня да згоднага сужыцьця беларусаў з палякамі.

Ці гэта запраўды так, пабачым з далейшых крокаў „польска-беларускае" групы.

**Пашырайце нашу газэту!**

# Цярпець няма сілы!

(*Адкрытае пісьмо вернуючага беларуса*).

З № 35 мітрапалітальнага журнала „Воскресное Чтеніе", друкаванага ў „афіцыяльнай" мове праваслаўнае царквы ў Польшчы —значыцца, парасейску,—мы даведаліся, што ў Шчучынскім благачыніі, Віленскае эпархіі, адбылася пастырска-місіянерская канфэрэнцыя. Даведаліся, што на гэтай канфэрэнцыі разглядаліся і абгаварываліся вельмі важныя пытаньні—галоўным чынам аб тым, як захаваць праваслаўных ад сэктанцкіх уплываў. Асабліва-ж гаварылася аб тым, што неабходна царкоўнае багаслужэньне прыблізіць да разуменьня „простага народу".

Нашае духавенства ўжо зразумела, якой магутнай зброяй для розных сэктанцкіх прапаведнікаў ёсьць тая беларуская мова, каторай яны карыстаюцца дзеля сваей справы дый з немалым пасьпехам. І тыя з нашых сьвяшчэньнікаў, якія служаць не маскоўшчыне, а Богу, вельмі добра адчуваюць, што толькі пры помачы тэй жа беларускай мовы, ўведзенай у царкву, можна захаваць адвечную сувязь царквы з народам. — Але-ж, на вялікі жаль, наша царкоўная іерархія гэтак крэпка стаіць за маскоўшчыну, што захаваньне апошняе стаўляе вышэй, чым інтарэсы праваслаўнае царквы! І вось на гэнай канфэрэнцыі ў Шчучыне гэта выявілася асабліва ярка. Канфэрэнцыяй кіраваў а. Рагальскі — чалавек, каторы ці то праз сваю старасьць, ці праз сваю прывычку лічыць добрым толькі тое, што пахнець Масквой, ніяк ня можа ці ня хоча зразумець, што для беларуса родная і зразумелая ёсьць толькі мова беларуская, як для ўкраінца—украінская, або для расейца—расейская. Ня мог ці не захацеў ён зразумець і таго, што „народно-місіонерскія собеседованія", ведзеныя парасейску, ні ў якім выпадку не абароняць праваслаўнае паствы ад сэктантаў, каторыя ўмеюць прамовіць да душы беларуса пабеларуску. Дык гэны сьляпы барацьбіт за маскоўшчыну не дапусьціў на канфэрэнцыі прыняць пастанову аб тым, каб увясьці ў царкву беларускую мову, каб пабеларуску казаліся казаньні ды вяліся „собеседованія", бо маскоўшчына для нашага народу незразумелая.

Падумайце толькі, людзі, колькі гэта трáціцца народных грошы, каб узгадаваць пастыраў для народу—пастыраў праўдзівых, пажаданых, што жылі-б горам і радасьцямі паствы, пасьвілі стада Хрыстовае ды служылі-б веры праваслаўнай, а не ідэі „единой, неделимой Россіи". Ну, запраўды: які-ж гэ[illegible] місіянер на Беларусі, калі ён ня можа [illegible]заць да верных беларусаў ніводнага сло[illegible] пабеларуску? Ясна, што карысьці з такога місіянерства няма дый ня можа быць, а робіцца толькі цяжкая крыўда народу. З гэных маскоўскіх „собеседованій" ніхто нічога не разумее, але грошы, здабытыя крывавым потам беларускага селяніна, плаціць трэба — і памесячна, і за праезд місіянера і г. д.

Пара ўжо спыніць такія жарты і зьдзекі місіянераў маскоўшчыны над гаротным беларускім сялянствам! Як ні пакорны й лагодны гэты селянін, але й ён ужо ня можа вытрываць, дык або йдзе да сэктантаў, або пойдзе па шляху, які яму паказалі нашы браты ўкраінцы, каторыя рашуча пайшлі на адкрытую барацьбу з маскоўскім клірам. Цярпець далей тое, што ў нас робіцца ў царкве, няма ўжо сілы!

Памятайце аб гэтым, айцы Рагальскія і „иже с ними"!

Няма ўжо сілы вытрымаць!

**Праваслаўны беларус.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэты запраўдны крык роспачы чалавека, глыбака вернуючага і шчыра адданага сваей царкве, мусім адзначыць, што не спадзяемся, каб словы яго трапілі да вушэй сьляпых і глухіх пастыраў, каторыя пануюць у праваслаўнай царкве. Тут трэба голас мільёнаў, голас масы, — трэба прымусіць служак маскоўшчыны, каб служылі беларускаму народу. Масавае выступленьне праваслаўных украінцаў на ўрачыстасьцях у Пачаеве паказала, што мера цярплівасьці народнае ўжо вычарпалася. Па гэтым шляху пойдуць і беларускія масы, бо іншага шляху для іх няма: ім яго не даюць.

# Дэкрэт аб... новым беларускім правапісе.

Рада народных камісараў БССР вырашыла зацягнуўшуюся ў Акадэміі Навук справу беларускага правапісу—дэкрэтам.

Мы ведаем, што яшчэ ў 1926 г. ў Менску адбылася так-званая Акадэмічная Канфэрэнцыя ў справе рэформы беларускага правапісу (і графікі). Канфэрэнцыя была падрыхтавана з усей адпаведнай павагай. Запрошаны былі з усіх краёў ня толькі беларускія, але й чужаземныя знаўцы беларускае мовы. У вычэрпываючай дыскусіі былі пастаўлены і разгледжаны ўсе проблемы рэформы; даклады, дыскусія, пастановы, праекты і прапазіцыі І-ае Канфэрэнцыі былі выданы асобнай салíднай кнігай. Другая канфэрэнцыя павінна была — на падставе атрыманых крытычных увагаў і новых матэрыялаў—канчальна вырашыць задачу рэформы. Але, як сказана, справа зацягнулася. А там — падыйшла „новая эра" ў савецкім „культурна-асьветным будаўніцтве" на Беларусі, якое па сутнасьці ня гэтулькі будуе, колькі руйнуе тое, што было збудавана ў першае 10-лецьце... І вось — цяпер справа вырашаецца „дэкрэтным мячом"...

Ня маем яшчэ ў руках поўнага тэксту дэкрэту. Маем толькі карэспандэнцыю аб гэтым з Масквы ў польскую газэту „Кур. Варш.". Вось, як там падаецца зьмест рэформы.

Насамперш—дэкрэт зьявіўся, як цярун

сярод яснага неба, зусім неспадзявана, без папярэджаньня ў прэсе, без апрацоўкі яго ў компэтэнтных беларускіх навуковых установах. „За тое"—усім выдавецтвам, як і ўсім культурна-асьветным установам, загадана ўвесьці дэкрэт у жыцьцё ў працягу... 2 тыдняў! Дзеля таго ўсе распачатыя — шырэйшага пляну—выданьні, як прыкладам акадэміцкі слоўнік беларускае мовы, прыпынены—да часу, пакуль ня будзе перароблена на новы правапіс тое, што ўжо надрукавана...

„Але гэтая рэч ня будзе лёгкая,—піша маскоўскі карэспандэнт „К. В.",—бо-ж дэкрэт уложаны залішне пасьпешна, дый, як відаць, людзьмі, далёкімі ад усялякае паважнае навуковае працы, таму—зьмяшчае шмат супярэчнасьцяў". Прыклады, якія павінны ілюстраваць правапісныя загады дэкрэту, часта пярэчаць апошнім. У выніку—„грамадзянін Савецкай Беларусі лёгка можа апынуцца ў канфлікце з сваім „пролетарскім сумленьнем" — пры самым шчырым жаданьні выканаць дакладна дэкрэт, а гэта тым больш балюча, што праступленьні проці новага, уведзенага дэкрэтам, правапісу кваліфікуюцца, як „буржуазна-нацыяналістычны адхіл", як яго рэцыдыў (паўтарэньне), як „контр-рэвалюцыя"...

Беларускую Акадэмію Навук, праўда, ня спыталіся перад выданьнем дэкрэту, але ўсё-ж ня можна сказаць, што яе зусім абыйшлі: ёй загадана... выдаць і масова распаўсюдзіць папулярную брашуру, у якой зьмясьціць, растлумачыць і... санкцыянаваць сваім навуковым аўтарытэтам ужо гатовы, сьвежа-сьпечаны маскоўска-менскімі палітыкамі правапісны дэкрэт. Зрэшта, паны беларускія міністры зусім навет і не хаваюць палітычнага зьместу гэтай сваей рэформы: наадварот — яны трэбуюць, каб Беларуская Акадэмія Навук у сваей брашуры першым чынам якраз і высьветліла палітычны сэнс і палітычную мэту рэформы, аб якіх выразна напачатку кажа й сам дэкрэт.

Сэнс рэформы, як кажа дэкрэт, у тым, што яна зьяўляецца чарговым этапам пляновае барацьбы проці „беларускага нацыяналізму" — у мэтах „ачышчэньня беларускае мовы ад нацыяналістычнага скажэньня й засьмечаньня", якія зьявіліся ў выніку таго, што „праца над разьвіцьцём беларускае мовы і культуры была лёгкамысна даверана беларускім „нацыяналістам"...

Ясна, што перад намі — далейшы этап ліквідацыйнага курсу Сталіна. Гэта разумее і сцьвярджае з ведамай „сымпатыяй", ня зусім толькі ясна да чаго: да беларускай культуры, ці да „савецкае рацыі стану", — наш карэспандэнт польскае газэты.

——

У заключэньне—характэрны штрых.

Зусім здаволены новай „рэформай беларускага правапісу"—ня хто іншы, як новы апякун беларускай мовы і культуры, фактычны прэзыдэнт, ці „комэндант" Беларускае Акадэміі Навук, польскі камуніст Домбаль.. А ведаеце, з якой прычыны? Не? Ну, дык паслухайце.—

У гутарцы з супрацоўнікам афіцыяльнага „Беларускага Тэлеграфнага Агенцтва" („Белта") тов. Домбаль зараз-жа па апублікаваньні дэкрэту заявіў паміж іншым, што „найважнейшае значэньне новага дэкрэту — у тым, што ён знаменіта аблягчыць (т. т. Домбалям?!) барацьбу з... полёнізацыяй беларусаў дый з уплывам польскае мовы на мову беларускую"...

Які сымпатычны гэты таварыш Домбаль! Які шчыры з яго прыяцель беларускае мовы і культуры! Недарма-ж і стаіць ён на чале Беларускае Акадэміі, як яе — „пан комэндант"...

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Экскурсія сяброў Бел. Нав. Т-ва.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва пастанавіў з'арганізаваць экскурсію ў Горадню — дзеля агляду нязвычайна цікаўных раскопак на Замковай гары. Раскопкі выкрылі фундамэнты будоўляў XI стагодзьдзя, а ў яшчэ ніжэйшых слаях зямлі—дык быццам аж з VIII стагодзьдзя.

Экскурсія мае адбыцца 14-га кастрычніка—ведама, калі на гэта пазволіць пагода.

Асобы, якія хочуць прыняць учасьце ў экскурсіі, павінны загадзя паразумецца з Урадам Т-ва. Зварачацца ў Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча ад 9 да 12 гадз. дня (апрача сьвятаў).

**Беларускі дэлегат на зьезд нацыянальных меншасьцяў у Жэневе.** З Вільні эеьдзіў сёлета на гэты зьезд ад хадэцкага Нацкому інж. А. Клімовіч. Гэтым разам беларускі дэлегат урэшце хоць прамовіў на зьезьдзе, пад той час, як ранейшыя дэлегаты хадэцкі, Ярэміч і Рагуля, як без'языкія, ня мелі магчымасьці выступаць на міжнародавай арэне і толькі моўчкі „слухалі" (не разумеючы!), як гаварылі другія.

Грам. Клімовіч прамаўляў на тэму аб самаўрадах і рэлігійным жыцьці беларусаў у Польшчы. Тэкст ягонае прамовы, зьмешчаны ў адной з беларускіх газэт у Вільні, быў сканфіскаваны староствам.

**Новы кооператыў.** У Вільні закладзены новы беларускі кооператыў пад назовам „Райніца". У складзе ўраду пераважаюць хадэкі і дзеячы з ТБШ.

Можам толькі выказаць нашу радасьць, што думка аб патрэбе позытыўнае беларускае працы на эканамічна-гаспадарчым грунце заваёўвае сабе спагаднікаў навет сярод тых

беларускіх элементаў, каторыя дагэтуль ад слоў неяк не маглі перайсьці да дзела.

**Новы супрацоўнік кс. А. Станкевіча.** Як ведама, павадыр „беларускае" хадэцыі кс. Адам Станкевіч, у якога ўлюбленым спосабам барацьбы з палітычнымі праціўнікамі ёсьць ілжа і даносы польскім уладам, заўсёды шукаў саюзьнікаў і супрацоўнікаў сярод падобных да яго элементаў. Сьпярша ён супрацоўнічаў з ведамым правакатарам Гурыным, каб „тапіць" Грамаду, пасьля — з ня менш ведамым Акіньчыцам, а цяпер зьвязаўся з Вярнікоўскім—тым самым, які нядаўна пабег да паліцыі з ілжывым даносам на ТБА, калі яго „выпрасілі" з паседжаньня, на каторае ён убіўся без запросінаў. Апублікаваньне апошняга факту ў нашай газэце скампрамітавала ня толькі „Цюціка", але і кс. Станкевіча, які запрашаў Вярнікоўскага на ўсе хадэцкія ўрачыстасьці, як „пачэснага" госьця. Дык „Цюцік" пабег да свайго „таварыша" на раду, як тут выкруціцца ды абалгаць грамадзянства. І вось супольнымі сіламі знайшлі выхад.

„Бел. Крыніца" надрукавала ў № 31 ілжывую заметку, у каторай апавядае, быццам Вярнікоўскі „сам выйшаў" з паседжаньня ТБА—дзеля таго, што нібы то ад яго трэбавалі перадачы ў ТБА гурткоў ягонае „Прасьветы". Вярнікоўскі быццам адмовіўся аддаць свае гурткі ў ТБА і пабег жаліцца (на што?) уладам...

Так „ратуе" кс. Станкевіч свайго сябру і супрацоўніка. Палемізаваць з ім, ведама, ня будзем. Сьцьвярджаем толькі адно: што ні аб якой перадачы ў ТБА гурткоў „Прасьветы" ніхто з Вярнікоўскім ніякіх гутарак ня вёў (—хіба можа кс. Станкевіч?), хоць Вярнікоўскі некалькі разоў набіваўся да паасобных сяброў ТБА з прапазіцыяй перадачы ягоных бібліятэк. Беларускае грамадзянства даўно ведае, што такое прадстаўляе „Цюцік", і даўно байкатуе яго, ня гледзячы на „ганараваньне" яго хадэкамі. Дый трудна-б было Вярнікоўскаму аддаваць некаму тое, што запраўды ня існуе: бо-ж ягоныя бібліатэкі „Прасьветы" існуюць толькі на паперы!

## На правінцыі.

**Прывітаньне.** (Вайстомская гм.). „Родны Край" на сваіх першых старонках і першы прынёс нам на вёску радасную вестку: гэта —аб звальненьні з вастрожных муроў да вольнага жыцьця двух нашых ведамых культурнікаў, Б. Тарашкевіча і Ф. Аляхновіча.

Сяляне вёсак: Іжа, Каралеўцы, Грэдзікі, Слабада, Засьценкі і Пукалы, гміны Вайстомскае, праз рэдакцыю „Родны Край" культурнікаў нашых вітаюць на волі і прысылаюць пажаданьне, каб яны, як вольныя, надалей працавалі пад падняцьцем культурнага роўня нашае вёскі. (*Подпісы*).

**Нашыя балячкі** (з Пружаншчыны). Апошнімі часамі на старонках беларускіх газэт, выходзячых у Вільні, вельмі рэдка паяўляюцца зацемкі з жыцьця Пружаншчыны, з жыцьця Палесься.

Яно і ня дзіва, бо, як казаў адзін з супрацоўнікаў „Роднага Краю", — гэта ёсьць беларускае „Конго", дзе ня ўсё можна гаварыць, пісаць, рабіць. Чаму гэта так робіцца, чаму ў нас спыняюцца ўсялякія праявы беларускага вызвольнага руху, чаму на кожнае роднае слова ўглядаюцца, як на „бальшавізм", сказаць ня трудна. Калі на ўвесь Пружанскі павет няма ніводнае беларускае арганізацыі, якая, хаця-б з вялікімі перашкодамі, але ўсё ж такі працавала, хаця-б што колечы рабіла, тады можна было-б што напісаці, чым пахваліцца. У нас усё зьліквідавана, аддана пад замок.

Дзе гэта хто бачыў, каб у мірны час, у час падпісваньня шматлікіх дагавораў аб ненападаньні, выдаваліся падобныя распараджэньні, як у нас на Палесьсі. Ці гэта ёсьць палітыка старасты, ці вышэйшых уладаў, ня ведаю; досьць таго, што ў вас забаронены ўсялякія зборкі, ня толькі грамадзкага характару, але й чыста прыватныя, дзе людзі зьбіраюцца павесяліцца, паскакаць і г. д. Па ўсім Пружанскім павеце нельга моладзі сабрацца паскакаць, папяяць песьні, бо за гэта цягаюць па пастарунках на баданьні, пішуць пратаколы. Мала таго: нельга зыйсьціся двум хлапцам пасядзець на вуліцы з дзяўчатамі, бо гэта ўжо носіць характар праступленьня. Паліцыя вечарамі езьдзіць па вёсках і разганяе падобныя „зэбраня", як „антыпаньствовыя". Нават нельга хрэсьбінаў ці вясельля рабіць без „замэльдаваньня" на пастарунку.

Зайдзіце Вы ў урадавыя ўстановы і інстытуцыі. Ці Вам на Вашу просьбу адкажуць палюдзку, пачалавечу, бяз злосьці і насьмяханьня? Ці споўняць свой абавязак без лаянкі брыдкай, як гэта павінна рабіцца? Нічога падобнага. Усюды нейкі цяжкі пануры настрой, усюды, як Вы чагосьці слушна дамагаецеся, Вам зробяць наперакор, зробяць нядобра, са злосьцю, каб Вам горай прыкра было. Адміністрацыя ўважае за слушнае з усялякай праявай жывога чалавека змагацца і бачыць у гэтым сваё задаваленьне, сваю місыю. Гэта робіцца пачынаючы ад солтыса і канчаючы староствам, значыць на ўсей адміністрацыйнай драбіне.

Не хацелася-б мне ўспамінаць, але раз пачаў апісываць нашыя злыбеды, дык мушу ўжо і аб наступным напісаць, хаця ня ведама, як рэагаваць на падобныя факты. Вясною, на праваслаўнае сьвята Юр'я, у Рудніках, Пружанскага павету, былі паарыштаваны дзяўчаткі, эусім маладыя, за тое, што былі ў чырвоных хустках ці блюзках. Арыштавалі некаторых каля царквы, а іншых яшчэ на дародзе і вялі на пастарунак, дзе... ну, не скажу, што рабілі. Даходзіла да таго, што хто меў на сабе нешта чырвонае, удякаў у царкву і там пераапранаўся, бо інакшай прышлося-б начаваць на пастарунку. Падобныя варункі жыцьця, пры недастатках

матэрыяльных, родзяць толькі ў народзе апатыю да ўсяго, ненавісьць, злосьць і наагул дэмаралізуюць. Тутэйшы.

## У Літве.

**Праца беларускага тэатру.** Беларускі Народны Тэатр у Літве апошнімі часамі з'арганізаваў два спэктаклі ў Коўні („Пан Міністар" Аляхновіча) ды ставіў тую-ж п'есу ў Еўі.

**У Белар. Культ.—Прасьв. Т-ве.** У м. Еўі адчынены аддзел Т-ва — па ліку ўжо пяты на правінцыі.

## Б. С. С. Р.

**Апалячываньне Савецкае Беларусі.** Рэдакцыя газэты „Kur. Wil." падае вестку з Менску, што ў раёнах Койданаўскім, Заслаўскім, Богінскім, Плешчаневіцкім ды часткова ў Менскім і Барысаўскім (усе яны — чыста беларускія!) „адносіны савецкіх уладаў да польскага насяленьня ў апошніх часох значна палепшыліся"; гэта выявілася ў пастанове адкрыць у гэтых раёнах цэлы рад польскіх школаў ужо ад 1 кастрычніка. Такім парадкам акцыя апалячваньне сумежных з Польшчай частак Савецкае Беларусі пашыраецца вельмі энэргічна.

Тая-ж газэта даведалася, што ў Беларускай Акадэміі Навук (у якой ужо даўно камандуе ўсім ведамы польскі камуніст Домбаль, віцэ-старшыня Акадэміі) уводзіцца польская катэдра, якая будзе абыймаць польскую гісторыю, польскую мову, этнаграфію, краязнаўства, гаргоўлю і прамысловасьць Польшчы.

# Палітычная хроніка.

**Поўны пасьпех унутранае „нацыянальнае пазыкі" ў Польшчы.** Генаральны камісар па ўнутранай „нацыянальнай пазыцы"—на канфэрэнцыі з прадстаўнікамі прэсы 30 верасьня — ацьвярдзіў поўны пасьпех падпіскі на пазыку.

Як ведама, пазыка раьпісана была на 120 мільён. злот., але падпіска ўжо ў першыя-ж дні пасьля яе адкрыцьця дала больш, як удвая. Бо-ж увечары 4. X. агульная сума падпіскі аблічалася на 290 мільёнаў.

Такім чынам, бюджэтны недахоп будзе лёгка пакрыты ўласнымі сіламі краю — без звароту да замежнага крэдыту.

А гэта — ня толькі захоўвае для краю ўсе кошты крэдытовае апарацыі, якія інакш пайшлі-б заграніцу, але і служыць доказам высокага роўня грамадзкае ахфярнасьці яго насяленьня.

**Скасаваньне 51 катэдры ў вышэйшых школах Польшчы.** 26. IX у „Дзен. Устав" апублікавана распараджэньне Міністра Асьветы аб скасаваньні аж 51 катэдры ў 7 вышэйшых школах Польшчы ды аб стварэньні 12 новых.

У Віленскім унівэрсытэце скасаваны ўсяго 7 катэдраў: сусьветнае літэратуры і раманскае літэратуры, угалоўнага права, унутраных хваробаў, нэўралёгіі, біолёгіі і архітэктуры польскай. За тое створаны новыя катэдры — філёзофіі хрысьціянскай, літоўскага (хіба-ж беларускага) права і біолёгіі (на фізыка-матэматычным факультэце замест скасаванае на факультэце мэдыцынскім).

Зноў адзначаем, што і гэтая рэформа ня выкарыстана дзеля стварэньня катэдры беларусаведы ў Вільні, сталіцы Заходняе Беларусі... А даўно-бы пара зрабіць гэта!

**Арышт шэфаў камун. прапаганды ў Польшчы.** Польскія газэты даносяць аб арышце 10 галоўных кіраўнікоў камуністычных арганізацыяў у Польшчы — на чале з самім яе шэфам, Альфрэдам Лямпэ, спэцыяльна вылэлегаваным у Польшчу Камінтэрнам—у мэтах „ажыўленьня дзейнасьці партыі і масавых выступленьняў". У 1930 г. А. Лямпэ выехаў у СССР і адтуль кіраваў працай Кам. Партыі Заходняй Беларусі на тэрыторыі Польшчы.

Цікаўна, як падкрэсьлівае камунікат „Іскры", што ўсе гэтыя сябры камуніст. „галоўкі" ў Польшчы выдавалі на свае „пэнсіі" аж 50.000 злот. у месяц, а на „арганізацыйную працу" пакідалі толькі... 15,000!

Адначасна арыштавана ў Львове ўся тэхнічная арганізацыя Цэнтр. Камітэту Кам. Партыі З. х. Украіны — у лічбе 20 асобаў. Апроч таго, у ваяв. Станіслаўаўскім арыштаваны звыш 100 асоб пад закідам камун. дзеяльнасьці.

---

**У Лізе Нацыяў.** Сэнсацыяй бягучай сэсіі Лігі Нацыяў, распачатай 22 верасьня, зьяўляецца запрапанаваны дэлегатам Гаіті праект рэзалюцыі аб пашырэньні на ўсе дзяржавы—сяброў Лігі — абавязковае аховы правоў меншасьцяў. Ахова такая, па думцы аўтара рэзалюцыі, павінна быць забясьпечана шляхам агульнае міжнародавае канвэнцыі (умовы), гарантаванае Лігай Нацыяў.

Рэзалюцыя перадана ў так зван. „6 тую камісію", дзе спадзявана гарачая дыскусія дый блізу пэўны правал—пад націскам вялікіх дзяржаваў, з Англіяй на чале...

**IX кангрэс нацыянальных меншасьцяў.** У Бэрне (Швайцарыя) 16-19 верасьня адбыўся IX кангрэс нацыянальных меншасьцяў. Зьехалася кала 30 дэлегатаў—прадстаўнікоў меншасьцяў звыш 10 дзяржаваў.

З Польшчы прыбылі 2 украінцы, 1 літвін, 1 расеец, 1 немец і 1 беларус.

Праф. Курчынскі, расеец з Эстоніі, трэбаваў, каб кангрэс зацікавіўся справай арганізацыі міжнародавае дапамогі галадаючай Савецкай Расеі. Украінцы трэбавалі таго-ж для Савецкае Украіны, абураючыся на Эрыё — за яго „захопленьне савецкай гаспадаркай" і фальшывыя весткі аб палажэньні на Усходняй Украіне.

Жыдоўская дэлегацыя патрабавала, каб кангрэс выразна асудзіў гвалты гітлераўцаў

над жыд. меншасьцяй у Нямеччыне, адмаўляючыся інакш прыняць удзел у кангрэсе.

**Францускa-савецкае зьбліжэньне.** Парыжская газэта „Новая Эра“ даведалася з Масквы аб тым, як шпарка ды ярка пачало выяўляцца новае францускa-савецкае зьбліжэньне ў СССР. Француская мова, якая дагэтуль была блізу цалком выгнана з савецкіх школаў, цяпер раптам уведзена ў-ва ўсе ваенныя школы СССР. З другога боку распачаўся рух наагул да культурнага зьбліжэньня савецкага грамадзянства з Францыяй. Спэцыяльны плян гэткага зьбліжэньня апрацоўвае спэцыяльны камітэт, на чале якога стаў „сам Горкі“. Прадбачыцца рад узаемных візытаў савецкіх і францускіх пісьменьнікаў, артыстаў і вучоных...

З Масквы вярнуліся дамоў выдатныя францускія палітыкі Эрыё і Кот. Эрыё, найвыдатнейшы правадыр урадавае партыі, неаднойчы быў і пэўне-ж будзе прэм'ерам. Кот —міністар авіяцыі. Абодва—гарачыя прыхільнікі францускa-савецкага зьбліжэньня, дык распачалі ў радзе публічных прамоваў шырокую прапаганду на карысьць гэтага зьбліжэньня. Абодва рысуюць вялізарныя пасьпехі савецкага будаўніцтва ў галінах ваеннай і асьветна-культурнай. На запытаньні аб голадзе на Украіне Эрыё адказаў, крыху абходзячы просты адказ, што ён бачыў усюды праявы вялізарнага ўздыму ўсенароднае працы над падняцьцем прамысловасьці дый наагул гаспадарчае культуры краю, а з другога боку—стварэньне ня толькі даступнае для ўсяго народу, але ўжо і абавязковае школы, а ў выніку гэтага—поўная ліквідацыя векавое няпісьменнасьці ў народзе, зьяўляецца такой заслугай савецкага ўраду, перад якой павінны як-ні-як спыніцца яго суровыя крытыкі... Міністар Кот апісывае пасьпехі савецкае авіяцыі ў захопленых выражэньнях.

**Працэс аб падпал Рэйхстагу.** У Лейпцыгу 21 верасьня распачаўся першы „паказальны“ працэс, інсцэнізаваны гітлераўскім урадам у мэтах апраўданьня сваей „барацьбы на зьніштажэньне“ з камуністамі. Але-ж уся справа наладжана страшэнна няўдала. Дый ня дзіва: грамадзкая апінія ўсяго сьвету даўно пераканалася ў тым, што рэйхстаг спалілі самі гітлераўскія правадыры—на чале з старшынёй парляманту Герынгам, каб пасьля кінуць абвіненьне ў гэтым праступленьні камуністам і тым апраўдаць расправу з гэтымі найбольш небясьпечнымі для гітлераўцаў канкурэнтамі на ўладу.

Характэрна, што напярэдадні афіцыяльнага працэсу ў Лейпцыгу адбыўся ў Лёндане „прыватны працэс“ у справе таго-ж падпалу рэйхстагу. У гэтым працэсе прынялі ўчасьце найвыдатнейшыя прадстаўнікі міжнародавае адвакатуры, пераважна сацыялісты. Прысуд гэтага „міжнародавага трыбуналу“, які дакладна разглядзеў справу ды апытаў шмат першараднай вагі сьведкаў, экспэртаў, паслоў,—страшэнна забойчы для гітлераўцаў: суд гэты сцьвярдзіў, што толькі з ведама і дазволу старшыні рэйхстагу Герынга (бліжэйшага таварыша Гітлера) мог быць спалены гмах нямецкага парляманту. Для абвінавачаньня пасаджаных на лаву падсудных у Лейпцыгу — галяндца Люббэ, немца Торглера дый кейкіх там баўгараў ды румынаў— няма ніякіх падставаў.

І запраўды-ж блізу 2 тыдні йдзе ўжо гэты працэс у Лейпцыгу, але ўсё больш ён пагражае ператварыцца ў вялізарную скандальную кампрамітацыю гітлераўцаў. Ван дэр Люббе, застрашаны ці падкуплены Гітлерам, адмаўчываецца; гарачыя баўгары лаюцца без цэрэмоніі, а перадусім выходзіць наверх шыты белымі ніткамі акт абвінававачаньня ды фальш протаколаў папярэдняга сьледзтва...

**Грунтоўная перабудова палітычнага жыцьця ў Японіі.** У зьвязку з новым нябывала шырокім размахам японскага ваенна-гаспадарчага імпэрыялізму наглядаецца ў Японіі грунтоўная перабудова ўнутрана-палітычнага жыцьця, рашучы рух у міжпартыйных адносінах японскага грамадзянства.

Як ведама, дагэтуль палітычнае жыцьцё ў Японіі адзначалася вострай барацьбой за ўладу з боку 2 галоўных партыяў: Мінсэіто і Сэйюкай, адказываючых больш-менш консэрватыўнай і лібэральнай партыям эўрапэйскіх парляментаў. Дык вось, гэтыя партыі, пасьля доўгіх нарадаў, пастанавілі часова прыпыніць палітычную барацьбу і даць мікаду магчымасьць стварыць сільны ўрад, незалежны ад партыяў і маючы вельмі шырокія паўнамоцтвы. Такім чынам кіраўнікі гэтых партыяў ратуюць прынцыпова парлямантарызм — тым, што самі даюць часова дыктатарскую ўладу ўраду — дзеля выпаўненьня стаўшае перад Японіяй ваенна-нацыянальнае задачы вялізарнае вагі.

Але ці ўдасцца правадыром партыяў захаваць парлямантарызм, гэта яшчэ сумліўна. Справа ў тым, што фактычна Японіяй кіруе ў сучасны мамэнт ужо блізу падыктатарску ваенная група. Яна-ж і мае стварыць новы ўрад. У лоне гэтае групы толькі меншасьць, з мін. скарбу Таканашы на чале, стаіць за захаваньне парлямантарызму, навет толькі фармальнае. Большасьць групы рашуча выступае за грунтоўную зьмену канстытуцыі—у кірунку „нацыянальнае дыктатуры“. Калі-ж апошняя станецца фактам, дык можна спадзявацца новых рашучых падзей на Далёкім Усходзе, гэта значыць—вайны з СССР.

Новы рэзкі канфлікт паміж маскоўскім і японскім урадам, яўна справакаваны апошнім, за масовыя арышты сярод савецкага пэрсоналю Усходня-Кітайскае чыгункі—ясна кажа аб гэтым. Японія яўна ня хоча купляць (для Манджуры) гэтую чыгунку, калі можа (бо чуе сябе ў сілах) проста ўзяць яе дарма —гвалтам... Масква пратэстуе вельмі энэргічна, але—ці рашыцца на вайну, цяжка сказаць. У кожным разе Масква з вялікім сьпехам і пасьпехам забясьпечыла сабе — цэлым радам „пактаў аб ненападаньні“—мір і спакой на ўсіх сваіх заходніх і паўдзённых граніцах...

# Гаспадарчы аддзел.

## Зборка бульбы.

Як толькі бульба дасягае свае поўнае сьпеласьці, тады бульбянік паволі пачынае заміраць. У гэты час фактычна найлепей выбіраць бульбу. Аднак, часта прыходзіцца выбіраць бульбу загадзя, калі яшчэ не настала поўная сьпеласьць. Да перадчаснага выбіраньня змушае гаспадара бязумоўна стан пагоды, бо бульба павінна быць выбрана яшчэ да замаразкаў і ў часе сухога надвор'я. Калі гаспадар, па той ці іншай прычыне, ёсьць змушаны выбіраць бульбу перадчасна, то павінен ва ўсякім разе пачакаць са зборам тае бульбы, якая прызначана на насеньне, бо насенны матэр'ял павінен быць зусім сьпелым. Выкапаную бульбу ня можна ніколі адразу ссыпаць у тыя памяшчэньні, дзе яна мае перахоўвацца. Бульбу трэба перш за ўсё прасушыць на адкрытым мейсцы або пад страхою, у залежнасьці ад стану пагоды. Мейсца, дзе мае перахоўвацца бульба, трэба прадэзінфэкаваць. Дзеля гэтага рэкамандуецца такія памяшчэньні абкурваць серкай. Таксама карысна такое памяшчэньне выбеліць вапенным малаком (1 кг. вапны на 10 літраў вады). Яшчэ лепей калі да вапеннага малака дадаць сіні камень (10 літраў вапеннага малака—100 гр. сіняга каменя).

Перад тым, як бульба мае быць ссыпана ў памяшчэньні для перахоўваньня, трэба яе перабраць. Усю надпсутую або параненую бульбу трэба аддзяліць ад здаровае. Таксама ў гэты час часта адбіраецца і насенны матэр'ял. На насеньне адбіраюцца бульбіны здаровыя і найлепшыя (лепей сярэдняе велікасьці). Яшчэ лепей, калі на насеньне адбіраецца бульба ў часе выкопваньня яе. Пры гэтым трэба старацца, каб на насеньне адбіралася бульба здаровая і з-пад найураджлівейшых кустоў, бо гэтае астатняе мае вялікі ўплыў на вялікасьць будучага ўраджаю. Калі ёсьць небясьпека бульбяных хвароба́ў, то тагды карысна насенны матэрыял яшчэ ў восені пратруціць. Для гэтае мэты служыць формалін (40-працэнтная рашчына), якое бярэцца адна частка і распускаецца ў 100 частках вады. У такую рашчыну апускаецца насенная бульба ня болей, як на 5—6 мін., і потым выймаецца і асушваецца.

Памяшчэньні, у каторых перахоўваецца бульба, павінны быць адпаведна цёплымі і належна сухімі. Тэмпэратура ў такіх памяшчэньнях не павінна падымацца вышэй 4-х градусаў Ц. і апускацца ня ніжэй нуля.

Часта прыходзіцца перахоўваць бульбу ў капцох або ямах. Тут трэба ў першую чаргу падбаць, каб бульба ня зьмерзла, а так сама, каб была патрэбная вэнтыляцыя. Магчымасьць руху паветра з капца і ў капец забясьпечваецца часта гэтак, што над капцом бульбы яшчэ не ахыпленай зямлёю ставіцца пучок саломы, і тагды бульба прыкрываецца саломаю і абсыпаецца зямлёю. Пучок саломы абараняець бульбу ад марозу і адначасна дае магчымасьць руху паветра. Гэты спосаб вэнтыляцыі не асабліва добры, бо ў саломе вытвараецца раса, якая сьцякае на бульбу. Куды лепей, калі ў капцы робіцца спэцыяльны канал ці т. зв. комін. Робяць яго наступным спосабам: капец бульбы пакрываецца саломай, а на самым вяршку кладзецца потым жэрдка, на жэрдку ўпоперак ізноў кладзецца салома, а пасьля ўсё разам абсыпаецца зямлёю. Калі капец ужо дастатачна абсыпаны, тагды жэрдка выймаецца, а на мейсцы яе застаецца канал (комін), праз які бульба можа выдзяляць лішнюю вільгаць і сапсутае паветра. З. К.

## Восень—найлепшая пара для папраўленьня сенажацяў.

Сенажаці—гэта тая дзялянка, аб якой наш селянін абсалютна не клапоціцца. Тым часам так не павінна быць, бо дагледжаныя і пагноеныя сенажаці даюць вялікія ўраджаі і добрае травы. Сенажаці нашых сялянаў будуць мець якую колечы вартасьць толькі тагды, калі на іх будзе зьнішчана куп'е, хмызьняк і выбаранаваны мох. Зрабіўшы гэтую працу, трэба прыступаць да ўгнаеньня. Для гэтае мэты вельмі добра памагае кампост. Ня меншае значэньне для ўгнаеньня сенажацяў маюць і штучныя гнаі. З мінэральных гнаёў у першую чаргу трэба зьвярнуць увагу на вапнаваньне, якога патрабуе большасьць нашых закрашаных сенажацяў. Потым добрым і танным гноем ёсьць каініт і попел. Ня меншае значэньне для сенажацяў маюць і другія танныя гнаі, як касьцяная і фасфарытная мука. С.

---

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 6 Х. Жыта гурт. 1 зл., 90 гр. дэт. 2 зл. 10 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 2 зл. дэт. 2 зл. 20 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 50 гр. дэт. 3 зл. 80 гр. Бульба стар. кілягр. 0,05 гр., дэт. 0,7 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 20 гр. — 3 зл. 60 гр., масла гаспадар. 2 зл. 40 гр.—2 зл 80 гр. Яйкі 60-70—70-80 гр. Даляр 5 зл. 75 гр.

---

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

## Што такое „стратосфэра" і чаму цікавяцца ёй вучоныя і лятуны.

Стратосфэрай называюць вучоныя паветраныя надхмарныя прасторы ад 10 да 12 кілёмэтраў і далей увышкі над зямлёй, дзе аднак ёсьць яшчэ паветра Характэрнай адзнакай гэтых высокіх слаёў зямное атмасфэры ёсьць тое, што паветра ў іх па меры ўздыму ўвышу шпарка радзее, ці, як кажуць фізыкі, „ціск паветра спадае", а так сама

шпарка спадае і тэмпэратура (ступень цяпла). У зьвязку з гэтым наглядаюцца яшчэ іншыя вельмі цікаўныя зьявішчы. Бо-ж зямная атмасфэра — гэта якбыццам нейкая цёплая ды празрыстая вопратка зямлі, якая ахоўвае яе ад сьцюжы міжзорных прастораў, затрымліваючы сьвятло і цяпло сонца. У зьвязку з шырокім разьвіцьцем авіацыі (лётаньня ў паветры „птахам"—„авіс" палацінску значыць птах) асабліва — ня толькі навукова, але і практычна—зацікавіліся людзі гэтымі вышэйшымі слаямі зямное атмасфэры, якія і назвалі стратосфэрай. А гэта—таму, што ёсьць думка выкарыстаць іх, як найбольш эканамічны—„гладкі" і бясьпечны шлях для паветранае камунікацыі.

Справа ў тым, што на гэтых верхніх паветраных шляхох—ня толькі, як сказана, радзейшае паветра, а значыць і меншае праціўленьне з яго боку лёту аэраплянy, які дзеля таго можа разьвіць значна вялікшую хуткасьць лёту, але ў гэтай стратосфэры — дзеля роўнае рэдкасьці паветра і роўна-халоднай тэмпэратуры — няма блізу ніякіх рухаў паветра: ані вятроў, ані страшэнных бураў і ўраганаў, няма тых, як кажуць авіатары, „паветраных гораў і прорваў", якія так часта служаць прычынай катастрофаў у часе палётаў.

Есьць яшчэ і іншыя цікаўныя адзнакі і зьявішчы ў гэтай стратосфэры, у якой чалавек і ўсе зямныя „целы" знаходзяцца, так сказаць, па-за „вопраткай" зямное атмасфэры, не ахаваныя ёй, але, так сказаць, „голыя"—аддаяныя пад зусім іншы, нязвычны ўплыў „космічных праменьняў", сусьветных, зорных. Вось — у мэтах вывучэньня якраз гэтых „космічных праменьняў" — у варунках іх магчыма вольнага ад перашкоды з боку атмасфэры дзеяньня—і ладзяць вучоныя палёты ў стратосфэру.

Пэршы такі палёт быў арганізаваны, як ведаюць нашы чытачы, у мінулым годзе бэльгійскім вучоным Пікарам. У спэцыяльна збудаваным балёне, з патрэбнымі запасамі цяпла і паветра, з спэцыяльна зробленымі прыладамі для навуковых дасьледаў—адбыўся палёт праф. Пікара. У сваім балёне Пікар дасягнуў вышыні звыш 16 кілёмэтраў і зрабіў вельмі цікаўныя досьледы.

Гэта быў, як кажуць, „рэкордны" палёт у вышыню. Пасьля праф. Пікар у Бэльгіі, а так сама ягоны брат у Амэрыцы рыхтавалі новыя палёты, каб падняцца яшчэ вышэй. Але тым часам пачалі рыхтавацца да палёту ў стратосфэру і савецкія дасьледчыкі. Збудаваўшы самастойна „стратостат" з гэрмэтычным (шчыльна зачыненым) балёнам — „лодкай", савецкія дасьледчыкі: праф. Пракофьеў і Гадуноў падняліся 30/IX з-пад Масквы, заявіўшы, што маюць узьняцца на 20 кілёмэтраў увышыню. Увечары адбыўся палёт, а на другі дзень стратостат спусьціўся пад Каломнай, дасягнуўшы вышыні 19.300 мэтраў, ці бяз малага 20 кілёмэтраў. Гэтым лётам „рэкорд" праф. Пікара быў пабіты—блізу на 3 кілёмэтры.

Хутка пачуем, якія навуковыя вынікі даў гэты адважны палёт.

## Як хутка распладзілася насяленьне зямлі.

Гісторыкі-статыстыкі, падлічыўшы ўзрост насяленьня зямное кулі, у частцы — Эўропы, за ведамыя нам часы гісторыі, знайшлі надзвычайна цікаўныя лічбы. Сто гадоў назад, тачней: у 1810 г., на зямлі ўсяго лічылася 680 мільёнаў жыхароў. Па падлічэньням Лігі Нацыяў у канцы мінулага году насяленьне зямлі дайшло да 2 мільярдаў 28 мільёнаў. Значыць, за сто гадоў насяленьне зямлі павялічылася ўтрая—нябывалая, нячуваная рэч на працягу ўсяе гісторыі людзкасьці.

Запраўды-ж — у часе нараджэнаў Хрыста Эўропа налічвала толькі 80 мільёнаў насяленьня. Ад таго часу да 1810 г., ці за 18 сталецьцяў, лічба гэта толькі падвоілася. У 1870 годзе ў Эўропе жыхароў было ўжо 180 мільёнаў, а ў 1930 — ужо 485 мільёнаў. За 60 гадоў прыбыло ў Эўропе больш як 30 мільёнаў людзей... І гэта — ня гледзячы на тое, што блізу 20 мільёнаў „зьмяла" вайна.

Дзіва, што Гувэр казаў, што Эўропа мае прынамся 100 мільёнаў людзей „на вываз".. Але-ж, як ведама, той-жа Гувэр ня пускаў у Амэрыку з Эўропы гэтага „ўвозу".

Слушна вучоныя статыстыкі і палітыкі кажуць, што ў бліжэйшым часе павінна распачацца новае вялізарнае перасяленьне народаў з Эўропы ў другія часьці сьвету. Бо-ж у Эўропе на квадратны кілёмэтр у сярэднім прыпадае па 70 жыхароў, тады, як у Паўночнай Амэрыцы толькі 4½, у Афрыцы 5, ў Аўстраліі —1 жыхар. У дадатку крызіс і безработце зрабілі Эўропу гаспадарча-вузейшай, маючай менш гаспадарчых мейсцаў для ўсьцяж павялічываючагася насяленьня.

Адчуваецца гэтая цеснота, як ведама кожнаму, і на вёсцы.

## Паштовая скрынка.

Гр. **М. Станкевічу**—в. Гародзькі, Валож. павет. Пісьмо вашае атрымалі — дзякуем за згоду. Будзьце ласкавы паведаміць, калі паздаравеепе дый зможаце выехаць. Тады вышлемо аванс на падарожу. Пісьмо з інструкцыямі высылаем. *Сэкрэтарыят ТБА.*

Атрыманы грошы на падпіску — ад гр. гр. Р. Сьлезьніка—1 зл.,— К. Пчалы — 1 зл., — Ал. Тырлюка—2 зл.

**Нашым поэтам і літэратарам.** „Літэратурны Куток" узнаўляецца пасьля летняга перарыву ў наступным нумары.

**Чытайце і пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22